# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 48 (822) ГОД XVI БЕЛАСТОК 28 ЛІСТАПАДА 1971 г. ЦАНА 60 гр.

## У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ

10 лістапада г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. Прысвечана яно было двум нацыянальным таварыствам і адбывалася ў памяшканні Рускага культурнага таварыства ў Беластоку. Праца беластоцкага гуртка гэтага таварыства і была першай тэмай абмяркоўкі. Інфармацыю ад гуртка РКТ склала Вольга Мацкевіч. Гурток налічвае 176 членаў. 60% членскага складу — моладзь. Гурток вядзе шматбаковую дзейнасць. Працуюць тут вакальны і дзіцячы калектывы, адбываюцца даклады, сустрэчы з пісьменнікамі і вечарыны. Апошнія карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Гурток мае таксама бібліятэку рускай класічнай літаратуры (1367 тамоў), якая ўзнікла з ахвяраванняў членаў і сімпатыкаў таварыства.

Працу гуртка РКТ у Беластоку члены Нацыянальнай камісіі ацанілі высока. У супольнай дыскусіі з актывістамі РКТ былі абмеркаваны спосабы далейшай актывізацыі і ўдасканальвання карыснай дзейнасці РКТ у Беластоку.

Затым генеральны сакратар Літоўскага грамадска-культурнага таварыства Яўгеній Петрушкевіч зрабіў інфармацыю аб падрыхтоўцы да VI з'езду Літоўскага грамадска-культурнага таварыства, які адбудзецца 18 снежня г.г. у Сэйнах. (рл)



*Асенні Бельск.* *Фота Цаф — Сянько.*

## БГКТ ХРОНІКА

■ Прэзідыум дуброўскага аддзела БГКТ абмеркаваў нядаўна справы, звязаныя са справаздачна-выбарнай кампаніяй у гуртках, і прыдзяліў заданні членам праўлення.

■ Гурток БГКТ у Луцэ налічвае зараз 33 асобы. Справаздачу аб дзейнасці гуртка прачытаў Іван Цыванюк. Падчас дыскусіі былі шырока абмеркаваны дырэктывы партыі на VI з'езд. Паасобныя члены даказвалі неабходнасць будовы беларускага ліцэя і інтэрната ў Гайнаўцы. Выступалі таксама з прапановаю павелічэння аўтарскіх сустрэч і спатканняў з дзеячамі БГКТ. Пасля прыняцця плана працы гуртка было выбрана новае праўленне ў наступным складзе: Іван Цыванюк — старшыня, Людміла Цыванюк — сакратар, Кастусь Новік — скарбнік, і Ірэна Леўша — член. Дэлегатам на канферэнцыю ў Гайнаўцы выбраны Іван Цыванюк. Вяла сход Ірэна Леўша.

■ На сход гуртка БГКТ у Малых Тыневічах прыбыло 60 чалавек. Вёў яго Мікалай Галавачук. Справаздачу чытала Лідзія Леснік. Дыскусія канцэнтравалася на наступных пытаннях: а) дырэктывы партыі на VI з'езд, б) паляпшэнне працы мясцовага клуба, в) будова беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы, г) будова беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Прадстаўнік гайнаўскага аддзела Васіль Дзун уручыў легітымацыі новым членам гуртка. У склад праўлення гуртка выбраны наступныя асобы: Сяргей Мартынюк (старшыня), Зінаіда Свентахоўская (сакратар), Мікалай Галаванчук, Ольга Свентахоўская, Лідзія Леснік і Іван Асташэўскі. Дэлегатам на справаздачна-выбарную канферэнцыю выбрана Лідзія Леснік.

■ Гурток БГКТ у вёсцы Чарэмха складаецца з 61 членаў. Справаздачу аб дзейнасці гуртка чытала Лідзія Кердэлевіч. Пасля дыскусіі, у якой найбольш увагі было прысвечана абмяркоўцы дырэктыў партыі на VI з'езд, прысутныя выбралі новае праўленне гуртка: Галіна Міркоўская (старшыня), Уладзімір Кердэлевіч (сакратар), Юрка Шатыловіч, Эльжбета Салінская і Яўгенія Салінская. На канферэнцыю аддзела паедзе Галіна Міркоўская.

■ У Новым Корніне сход гуртка БГКТ падсумаваў сваю дагэтуляшнюю дзейнасць, прыняў новы план працы і выбраў новае праўленне ў складзе: Міхась Гацута (старшыня), Мікалай Раманчук (сакратар), Аляксандр Баўтручук і Рыгор Сяроцкі. Міхась Гацута будзе прадстаўляць свой гурток на канферэнцыі аддзела.

■ Гурток БГКТ у Дабрывадзе падсумаваў сваю працу, прыняў новы план дзейнасці і выбраў новае праўленне на чале з Верай Стаськевіч. Дэлегатам на канферэнцыю выбрана Тамара Еўдасюк.

■ 14 лістапада адбыўся пленум беластоцкага павятовага праўлення аддзела. На ім сакратар аддзела Валя Філіпюк прачытала даклад «Заданні гурткоў БГКТ у святле дырэктыў партыі на VI з'езд», а член прэзідыума аддзела Янка Цялушэцкі выступіў з дакладам «Заданні гурткоў БГКТ у выкананні статутовай дзейнасці». Падчас дыскусіі закрануты былі, між іншым, справы беларускага школьніцтва ў Беластоцкім павеце, справы справаздачна-выбарнай кампаніі ў гуртках і развіццё аматарскага руху. У дыскусіі выступіў таксама старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі. Вёў пленум намеснік старшыні аддзела Мікалай Матэйчук. (мс)

ЗЫХОДЗЯЧЫ З ДЫРЭКТЫЎ ПАРТЫІ

## ЧАМУ Б НЕ ЎЗЯЦЦА...

Настаўнікі беларускай мовы і вучні адчуваюць вялікі недахоп мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры. На канферэнцыях настаўнікаў ці бібліятэкараў чуюцца лямaнты, а ў той жа час не многа, праўда, але ўсё ж трохі ёсць вельмі добрых кніг на беларускай мове ў кнігарнях Беластока, Бельска і Гайнаўкі. Ці ж цяжка, бываючы ў гэтых гарадах па розных справах, заглянуць у кнігарню і выбраць тое, што патрэбнае, або папрасіць, каб гэта зрабіў нехта з бацькоў?! Што і казаць, тут звычайная нядбайнасць настаўнікаў, якія апякуюцца школьнымі бібліятэкамі, і грамадскіх бібліятэкараў.

І яшчэ адна справа. Ці той, хоць бы і скромны кнігазбор, што знаходзіцца ў бібліятэках, у належнай меры прапагандуецца сярод чытачоў у форме выставак, вечарын і г.д.? Робяць гэта некаторыя бібліятэкі грамадскія, а школьныя — значна радзей. Надта ж шкада, бо ў школе да гэтага аказій вельмі многа: і ўрокі беларускай мовы, і заняткі ў бібліятэцы, і гарцэрскія зборы, і чытальніцкія ды дэкламатарскія конкурсы. Гэта якраз месцы для папулярызацыі беларускай кнігі побач з кнігай польскай.

І тут узнікае не менш балючая справа дапаможнікаў да навучання бела-

Працяг на стар. 4

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### ВАСІЛЬ ШПІЛЬКО

Васіль Шпілько з Койлаў, Гайнаўскага павету, гаспадарыць на 9-ці гектарах зямельных угоддзяў. Сёлета сабраў ён ураджай жыта і пшаніцы ў колькасці 26 цэнтнераў з 1 гектара зямельных угоддзяў. Пад збожжавыя культуры даў ён 140 кілаграмаў NPK у чыстым складзе на 1 га, а на сенажаці — 220 кілаграмаў NPK. Дзяржаве Васіль Шпілько прадаў больш 15 цэнтнераў збожжа.

Васіль Шпілько — гэта таксама добры жывёлавод. Зараз гадуе ён 7 кароў і 14 свіней. Штодзень на пункт скупкі дастаўляе ён 20—25 літраў малака. У працы Васіль Шпілько карыстаецца ўласнай бульбакапалкай, жняяркай, касілкай і электрарухавіком. Нядаўна купіў ён у хату пральку і халадзільнік.

На панадворку майго субяседніка бачым новыя сельскагаспадарчыя будынкі: абору і клуню. Усюды лад і парадак.

Васіль Шпілько — гэта грамадскі дзеяч. З'яўляецца ён прэзасам мясцовага гуртка ЗСЛ, грамадскім радным і апекуном. Функцыі гэтыя выконвае ён больш дзесяці гадоў.



### АНДРЭЙ ЯРМОЦЮК

Андрэй Ярмоцюк з Каменя з'яўляецца адным з найлепшых гаспадароў у Гайнаўскім павеце. Гаспадарыць ён на 16 гектарах зямельных угоддзяў. Ураджаі атрымлівае даволі высокія. Сёлета ячмень і авёс далі плён у 40—42 цэнтнеры з 1 га зямельных угоддзяў, а пшаніца Данькоўская — 40 цэнтнераў з 1 га. Дзяржаве прадаў ён 21 цэнтнер збожжа.

Андрэй Ярмоцюк гадуе 2 племянныя кабылы, 5 штук кароў і 6 штук свіней. Ад трох дойных кароў прадае ён дзяржаве 12 тысяч літраў малака ў год. У працы на гаспадарцы карыстаецца электрарухавіком, абмалотачным агрэгатам, млынком-сьрутоўнікам і крайзэгай. У палявых працах Андрэй Ярмоцюк карыстае з уласнага сеўніка, касілкі і жняяркі. У будучыні намераны ён купіць сабе сеўнік для мінеральных угнаенняў. Сельскагаспадарчыя будынкі ў Андрэя Ярмоцюка новыя. Да абораў падключаны нават краны з вадою.

У 1962 годзе А. Ярмоцюк быў узнагароджаны Сярэбраным крыжам заслугі.

*Тэкст і фота: Я. Цялушэцкі*



# ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ

*Пастановы VII і VIII пленумаў ЦК ПАРП адкрылі не толькі для прамысловасці, але і для сельскай гаспадаркі новыя магчымасці развіцця.*

*Характэрнай для падзеяў пасляснежаньскага перыяду з'яўляецца нязвыклая аператыўнасць кіраўніцтва партыі і ўраду. У чэрвені гэтага года X пленум ЦК ПАРП паставіў заданне землеўпарадкавання і змен, якія б стымулявалі развіццё сельскай гаспадаркі, а ўжо 26 кастрычніка Сейм прыняў сем законаў, якія служаць рэалізацыі гэтай мэты.*

*У гэтым нумары «Нівы» распачынаем цыкл артыкулаў пад супольным загалоўкам «Фронтам да вёскі», у якіх пазнаёмім нашых чытачоў з асноўнымі правіламі гэтых законаў.*

форме натарыяльнай. На практыцы сяляне часта самі спісвалі гэткія ўмовы, умову нярэдка пацвярджаў солтыс або прэзідыум грамадскай рады нарадовай. Неаднаразова тыя, якія купілі зямлю паводле гэткай умовы, аплочвалі за яе падаткі. Аднак зямля гэта не з'яўляецца іх уласнасцю. Здаралася, што той, хто на падставе гэткай прыватнай умовы зямлю прадаў, або яго наследнікі патрабавалі звароту зямлі. Яны асталіся ўласнікамі і мелі права зямлю адабраць, або прадаць яе іншаму умовай натарыяльнай.

Распаўсюджаны таксама быў добраахвотны падзел спадчыннай гаспадаркі. Пасля смерці бацькі дзеці дзялілі паміж сабой яго гаспадарку і карысталіся з атрыманых у выніку гэтага падзелу ўчасткаў. Аднак уласнікамі гэтых участкаў яны не былі, бо паводле закону важным з'яўляецца падзел, праведзены праз суд, або ў форме натарыяльнай умовы. Усе гэтыя праблемы вы-

## УРЭГУЛЯВАННЕ ЎЛАСНАСЦІ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Часта бывае на вёсцы такая сітуацыя, калі селянін карыстаецца зямлёй дзесяткі год, а не з'яўляецца ўласнікам гэтай зямлі. Гэта становішча ўзнікае перш за ўсё ў выніку нефармальнага продажу, замены, даравання і падзелу спадчыны. Справа ў тым, што зямлю можна прадаць, замяніць або дараваць толькі ўмовай, заключанай у

рашае закон аб урэгуляванні сельскіх гаспадарак. Ва ўсіх вышэй апісаных выпадках, калі зямля знаходзілася ў самастойным уладанні селяніна, у дзень 4 лістапада яна пераходзіць на яго ўласнасць. Гэта значыць, што калі 4 лістапада не ўладаў зямлёй, не атрымае на аснове гэтага закону ўласнасці нават тады, калі прыватная ўмова прода-

жу або падзел спадчыны праведзены значна раней перад гэтай датай.

Здараецца аднак, што селянін карыстаецца зямлёй без ніякай умовы. Прыкладна хтосьці выехаў з вёскі, а з зямлі карыстаецца сусед або сваяк. У гэтых выпадках, калі селянін карыстаўся з зямлі прынамсі пяць год, ён становіцца ўласнікам зямлі. Аднак, калі хто захапіў зямлю бяспраўна, супраць волі ўласніка, набывае ўласнасць гэтай зямлі пасля дзесяці год.

Ва ўсіх вышэй апісаных выпадках набыццё ўласнасці наступае без абавязкаў заплаты. Толькі тады, калі хто купіў зямлю прыватнай умовай (не ў форме натарыяльнай), але не заплаціў дамоўленай цаны, уласнік зямлі можа дамагацца яе заплаты.

Вышэй пададзеныя правілы не адносяцца да зямлі, якая з'яўляецца ўласнасцю дзяржавы, чужаземцаў і рэлігійных арганізацый. Гэта значыць, што купіць зямлю ад дзяржавы, рэлігійных арганізацый або чужаземца, ці замяніць з імі зямлю можна толькі ў форме натарыяльнай, а ўмовы прыватныя не ствараюць асноў да набыцця ўласнасці на аснове закону аб урэгуляванні ўласнасці сельскай гаспадаркі. А што да дзяржаўнай зямлі, то набыць яе дзякуючы доўгагадоваму карыстанню — немагчыма.

Калі супроць селяніна, які згодна з законам набывае ўласнасць зямлі, ёсць ужо правамоцнае рашэнне суда, але да 4 лістапада яшчэ не выканана, рашэнне выканана быць не можа.

*В. Склубоўскі*

# Грамадскі дзеяч

Прафесія настаўніка з'яўляецца адной з найбольш адказных прафесій. Настаўнік выхоўвае будучага грамадзяніна, уплывае на фарміраванне яго характару. Іван Аляксеюк працуе ўжо 20-ы год настаўнікам. У 1952 годзе, закончыўшы педагагічны ліцэй, прыехаў на Сакольшчыну і працаваў спачатку ў Паўночным Востраве, пасля ў Новым Востраве. Зараз ён узначальвае васьмікласную школу ў Гуранах. З'яўляецца ён чулым таварышам, лепшым дарадчыкам маладых калег па рабоце, заўсёды яны знойдуць у яго і дапамогу, і падтрымку, і добрую параду.

Педагагічнае майстэрства, шырокая эрудыцыя Івана Аляксеюка, творчы падыход да вырашэння стаячых перад школай задач, няспыннае ўдасканальванне свайго ідэйнага і прафесіянальнага ўзроўню, любоў да дзяцей і ўменне да іх падыйсці, — усё гэта гаворыць аб ім як аб добрым педагогу і добрым кіраўніку школы.

Іван Аляксеюк з'яўляецца таксама мясцовым грамадскім дзеячом. Выбраны ён сакратаром грамадскага камітэта ПАРП. Прысвячае ён шмат часу на выконванне гэтай ганаровай функцыі.

Па яго ініцыятыве адбыліся супольныя пасяджэнні КГ з прэзідыумам ГРН і камітэтам ЗСЛ, на якіх абмяркоўваліся дырэктывы партыі на VI з'езд. Да кожнай вясковай партыйнай арганізацыі прыдзелены члены КГ, якія супольна з ПОП распрацавалі план прапагандысцкай працы перад і пасля з'езду ПАРП.

Іван Аляксеюк таксама вядомы дзеяч БГКТ. Некалькі разоў быў ён членам Галоўнага праўлення. Ужо шмат часу як член сакольскага праўлення аддзела прыкладна выконвае ўсе ўскладаемыя на яго абавязкі. Па прапанове Беларускага таварыства Рада Дзяржавы ў 1965 годзе за дзейнасць у БГКТ узнагародзіла Івана Аляксеюка Сярэбраным крыжам заслугі.

У гуранскай школе выкладаецца беларуская мова. Кіраўнік школы намагаецца, каб як найбольш дзяцей яе вывучала. У яго ёсць свае дзеці — школьнікі, і іх адносіны да роднай мовы сведчаць аб адносінах да яе роднага свайго бацькі і таксама маці, якая з'яўляецца настаўніцай у гэтай школе. Аляксеюкі заўсёды прычыняюцца да таго, каб у мастацкую самадзейнасць школьнікаў уплятаць беларускі рэпертуар.

*М. Хмялеўскі*



*Фота Цаф — Сянько*

# БЛІЖЭЙ ГАСПАДАРА - ВЫТВОРЦЫ

Хтосьці нядаўна палічыў, што беластоцкі гаспадар затрачвае на працягу года каля 40 дзён, каб уладзіць справы на прадпрыемствах і ва ўстановах, звязаных з яго сельскагаспадарчай прадукцыяй.

Усім вядома, што шмат часу гаспадар затрачвае на продаж сваёй прадукцыі. Востра гэта выглядае цяпер, калі тавараабарот кожнай амаль гаспадаркі расце на вачах. І на колькі ў скупцы будзе ўзрастаць абслуга гаспадара, на столькі зменшыцца лік затрачаных дзён гаспадара.

Адной з форм хуткай абслугі гаспадара павінен быць непасрэдны адбор яго прадукцыі з гаспадаркі. У апошні час вельмі папулярызуецца т. зв. «трохтаноўка». Гэтая форма заключаецца ў тым, што ў выпадку, калі гаспадары данай вёскі на даны дзень маюць падрыхтаваных тры тоны збожжа на продаж, дык скупуючы прысылае на месца грузавы самаход, які забірае гэтае збожжа. Такая форма скупкі вельмі падабаецца гаспадарам. Тым часам у некаторых мясцовасцях ГС не вельмі ахвотна выкарыстоўваюць гэтую форму, апраўдваючыся недахопам

транспарту і іншымі аб'ектыўнымі цяжкасцямі.

Цікавіўся я справай недахопу транспарту і са здзіўленнем даведаўся, што сельскагаспадарчыя гурткі і МБМ толькі чакаюць запатрабавання. Значыць, транспарт ёсць. Дык «дзе ж закапана сабака»?

Нельга запярэчыць, што 30 працэнтаў «трохтановак» у ваяводстве атрымана пры дапамозе гэтага ж транспарту. Аднак, з другога боку, у ВЗГС прызнавалі рацыю, што не ўсюды і не ўсе ГС-ы выкарыстоўваюць транспарт сельгасгурткоў дастаткова. Звязана гэта з фактам, што транспартныя паслугі сельгасгурткоў на многа даражэйшыя, чымсьці іншых установ, а ПЗЗ (Паньствовэ заклады збожовэ) не звяртае розніцы цаны ГС-у. Справа гэта не толькі таму істотная, што спулдзельчасць разлічваецца на аснове прыбытку і што частка гэтага прыбытку заўсёды прыдзяляецца на новыя інвестыцыі. Мала таго, паказчык прыбытку данай спулдзельні з'яўляецца асновай прэміі працуючых тут людзей.

Факт, што гаспадара не цікавяць унутраныя справы двух установ, якія павінны абслугоўваць гаспадара. І, як інфармавалі мне адказныя работнікі спулдзельчасці, форма «трохтановак» будзе развівацца. Адно толькі незразумелае, а другога баюся. Менавіта незразумела, чаму ж такі дарагі транспарт сельгасгурткоў і МБМ, калі, напрыклад, вядома, што капітальныя рамонты трактараў у нашым ваяводстве таннейшыя на 4.543 зл., чым у краіне. Баюся, што сельгасгурткі проста хочуць зарабіць на гэтым (у гэтым выпадку ад ГС-аў). Разумею, заробак, які выводзіцца з іншых установ, не звязаных з абслугай гаспадара, але ў даным выпадку і сельгасгурткі, ГС-ы і МБМ, створаны для абслугоўвання гаспадароў і павінны дагаварвацца і мець прапарцыянальную адказнасць за добрую якасць гэтых паслуг.

«Трохтаноўкі» не вырашаюць справы. Многія гаспадары надалей будуць прывозіць збожжа на склады фурманкамі, а тут таксама трэба чакаць. Зараз спулдзельні прыступілі да апрацоўкі адпаведных графікаў. Аднак толькі стварэнне графікаў не вырашае поўнасцю справы. Да гэтых графікаў павінны дапасавацца гаспадары. А гаспадары дапасуюцца тады, калі спулдзельчыя прадстаўнікі пракансультуюцца і атрымаюць апрабату гэтых графікаў.

Адным словам: бліжэй гаспадара-вытворцы!

*Аляксей Карпюк*

# ТППР на Гайнаўшчыне

Нядаўна адбыўся ў Гайнаўцы з'езд Таварыства польска-савецкай дружбы (ТППР), на якім была падсумавана дзейнасць гэтай арганізацыі ў Гайнаўскім павеце за мінулы двухгадовы перыяд і накрэслены план працы на бліжэйшыя гады. Зараз на Гайнаўшчыне дзейнічае 44 гурткі ТППР на прадпрыемствах і 13 гурткоў у школах. Налічваюць яны 5308 членаў. Найлепшымі гурткамі з'яўляюцца гурткі пры Гайнаўскім прадпрыемстве драўніннай прамысловасці (ГЗПД), пры Інстытуце доследаў над млекакормячымі ў Белавежы, пры тамажні ў Чаромусе, пры пачатковай школе ў Нараўцы і пры пачатковых школах № 1 і 2 у Гайнаўцы.

Удзельнікі з'езда адзначылі, што на Гайнаўшчыне вялікім зацікаўленнем карыстаюцца сустрэчы з савецкімі воінамі, журналістамі і г.д. Засцярогі былі адносна таго, што замала дэманструецца савецкіх кінафільмаў, замала бывае сустрэч з савецкімі акцёрамі, мастацкімі калектывамі і г.д.

Падчас працы з'езда найактыўнейшыя грамадскія дзеячы: Мікалай Суліма, Кастусь Грыц, Аляксандр Самойлік і Мікалай Карпюк былі ўзнагароджаны залатымі адзнакамі ТППР. Дыпломы атрымалі Пётр Гіншт, Мікалай Блізнюк і Ніна Хмель.

На заканчэнне з'езда было выбрана новае праўленне павятовага аддзела ТППР у наступным складзе: Мікалай Самоцік — старшыня, Мікалай Суліма і Эдвард Маркевіч — намеснікі старшыні.

(яц)




## СЭНС ЖЫЦЦЯ, СЭНС БАРАЦЬБЫ

«Сэнс жыцця» — гэта адна з апошніх кніжак Аляксандра Амільяновіча, якую летам 1971 года выпусціла ў свет выдавецтва Міністэрства нацыянальнай абароны. Ужо сам загаловак наводзіць на думку, што ў гэтай кніжцы аўтар разглядае справы нештодзённыя, справы крайняга, канчатковага характару. Адзін з герояў гэтай кніжкі, партызан-канспіратар, гаворыць сваёй каханай дзяўчыне: *«Сэнс твайго жыцця — гэта абавязак, які выконваеш...»* А дзяўчына вымушана была прыкідвацца немкай, запісалася ў фольксдойчы, на вачах даўнейшых сваіх знаёмых дэманстрацыйна хадзіла пад ручку з найбольш заўзятымі гітлераўскімі катамі, як перакладчык прысутнічала ў час катаванняў... Зненавідзелі яе людзі, якіх яна кахала, якім па-свойму дапамагала. Дайшло да таго, што ў яе — стойкую падпольшчыцу — з-за вугла стралялі нейкія антыфашысты. І яна ўсё гэта вымушана была сцярпець. Ды не толькі яна адна. Пра сапраўдную ролю Галіны ў логаве ворага ведала ледзь некалькі чалавек з падполля. І яны не перажылі вайны. А Галіна... У памяці тых, хто яе ведаў, яна асталася як здрадніца, як паршывая авечка... Уявіце, калі ласка, яе трагічнае становішча, яе горкі лёс. Можна да смерці крычаць: я не вінівата, я змагалася! Хто паверыць?

У падобным духу напісаны амаль усе іншыя апавяданні, якія змешчаны ў гэтым зборніку. Ёсць іх разам 18. Па свайму характару яны тыпова «амільяновічаўскія». Аўтар перш за ўсё намагаецца стварыць атмасферу «дакументальнасці», каб чытач мог без хістанняў паверыць, што тое, пра што ідзе гутарка, сапраўды здарылася, а здарэнне праходзіла менавіта так, як апісаў Амільяновіч. Тэарэтыкі літаратуры гавораць, што гэта *верыстычны падыход да тэмы.* І трэба адзначыць, што гэты «верыстычны» падыход да тэмы Аляксандр Амільяновіч прымяняе пасняхова. Нават у тых апавяданнях, у якіх непасрэдна не адклікаецца да архіўных дакументаў, удаецца яму стварыць уяўленне суровай аўтэнтычнасці.

У зборніку «Сэнс жыцця» ён таксама астаецца верны адной сваёй *вялікай* ваеннай тэме. У яго няма герояў, якія спакойна — як учора, так сёння і заўтра — перажоўваюць хлеб свой надзённы. Але няма таксама падзей надта ж вялікіх, запісаных у гістарычных хроніках, праслаўленых удзелам вядомых палітыкаў. Яго героі змагаюцца заўзята і самаахвярна, але іх змаганне здзяйсняецца найчасцей далёка ад людскіх вачэй.

Возьмем для прыкладу гэтага рабочага-чыгуначніка, які пасля мабілізацыі ў 1939 годзе папаў у гітлераўскі палон, а пасля ўцёкаў — у адзіночку на станцыі Кенігсберг — узарваў некалькі варожых эшалонаў з гаручым і зброяй, каб потым закончыць жыццё на гільятыне ў тым жа Кенігсбергу. Вось як той польскі разведчык, які ў Элку сярод гітлераўцаў сам прытвараўся членам партыі. Як той манцёр з Граева, які ўмела раскрыў тайну «аўтамабіля смерці», што перавозіў на расстрэл ваеннапалонных розных нацыянальнасцей з лагераў у мясцовасці Богушы. Як урэшце Вацлаў Куберскі, які цэлы міжваенны час, калі не сядзеў у турме, дык змагаўся ў падполлі, які ў час акупацыі стаў савецкім партызанам і выконваў найбольш складаныя баявыя заданні разведчыка і які загінуў ад куль польскіх нацыяналістаў.

Вось тут закранулі мы яшчэ адну надзвычай важную рысу гэтай кніжкі Аляксандра Амільяновіча. Яна вельмі пераканаўча адлюстроўвае сапраўднае, інтэрнацыянальнае сяброўства, якое між польскім і савецкімі народамі замацоўвалася ў заўзятай барацьбе супраць супольнага лютага ворага. Найбольш цвёрдае сэрца не застанецца спакойным пасля прачытання апавядання «Корчляшчыны» — пра польскую дзяўчыну, якая пайшла на смерць, а не выявіла, дзе хаваецца савецкі лётчык. Тут таксама можна было б прыгануць апавяданне «Тайна прускага лесу» і некаторыя іншыя.

Таму гэтая кніжка адзначаецца высокімі выхаваўчымі якасцямі, вучыць яна, што дабро агульнае, дабро Айчыны, трэба заўсёды ставіць вышэй ад сваіх прыватных спраў.

*Віктар Рудчык*

